Васіль Жуковіч

# Ява,
# сны,
# летуценні

Паэма
Вершы

Мінск
Ковчег
2022

УДК 821.161.3-1
ББК 84(4Беи)-5
Ж85

**Жуковіч, В.А.**

Ж85 Ява, сны, летуценні : паэма, вершы / Васіль Жуковіч. – Мінск : Ковчег, 2022. – 107 с. : іл.

ISBN 978-985-884-223-9.

У гэтай кнізе аўтар, застаючыся верным сабе, выказвае шчырую любоў да Беларусі, не прамінае праблемы дабра і зла, услаўляе чалавечнасць, пранікнёна піша пра блізкіх людзей, жывых і страчаных. У лірычнай паэме, распавядаючы пра перамогу над эпідэміяй, яркія старонкі прысвячае каханню, добрым сямейным узаемінам, таму “Паэма вяртання” ўспрымаецца як жыццядайны гімн сямейнаму ладу, любай жанчыне.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 84(4Беи)-5**

**ISBN 978-985-884-223-9**

*Я прыйшоў на Зямлю,*
*каб два словы сказаць:*
*я люблю...*

*Васіль Жуковіч*

# Паэма вяртання

*Прадмова*

Любая! Я, апантаны,
ствараю
паэму вяртання,
вяртання твайго,
ды не з іншага краю,
не з замежжа, а ад мяжы небыцця –
у абдымкі мае, у свой дом – да жыцця.

1
“Дзякуй, родны!” – сказаў я Алесіку-ўнуку.
Ён цябе мне прывёз, чым парушыў разлуку.
У вітальню ўвайшла неяк вяла,
нясмела,
хутчэй сесці на ўслончык хацела,
а ў абдымках маіх зарыдала.
Незабыўны той дзень,
Неспакойна-будзённае свята.
Аж праз месяц вярнулася ты,
быццам цень
худая,
дахаты.
Слых прытуплены,
зірк разгублены,
сінякі пад вачыма…
Інтэнсіўна лякарня лячыла,
ніцма спаць прывучыла,
шмат вады выпіваць
і ляжаць, безупынку ляжаць.

Ну а вынік які? Адкажы, бедалажка.
Сатурацыя? Так да нормы далёка!
Сон прапаў. Пульс – да ста.
Нам для радасці мала падстаў.
Бачу, дыхаць як цяжка,
нахіляцца нялёгка.
Ды, прывыклая быць акуратнай,
ты з бялізнай машыну хутчэй уключыла,
мне адно што рэцэпты ўручыла,
папрасіла ў аптэку пайсці неадкладна.

Перамог самастойна я вірус вядомы –
рад: магу быць карысным і дома й не дома.

*2*

На ўсю моц уключаю
турбіну турботы.
Ад цябе злыбяду
адвяду
ў сухі лес, на гнілыя балоты.
Свет прайду
я хадой хуткай, лёгкай –
паратунак знайду
тваім змучаным лёгкім,
і параненым нервам, і сэрцу
(разгубіцца не мне ў паняверцы)!
Нам паслужаць як след
цудадзейныя лекі,
вітамінаў букет;
абыду ўсе аптэкі
і найлепшыя крамы і рынкі –
для здароўя твайго, для цябе, гаспадынькі.

Ёсць у нас і свае неблагія прыпасы;
назапашвалі рэдка вяндліну, каўбасы –
не жылі мы затое без ягад улетку,
па паўдня мы праводзілі ў лесе нярэдка;
любім лес і гаючыя лесу дары.
(З добрым сэрцам прыходзь да яго і бяры,
ён, адкрыты, падзеліцца ўсім, чым багаты,–
не з пустымі рукамі ты пойдзеш дахаты… )

Твае ўвішныя рукі ў лясах шчыравалі,
спрытна пальчыкі ягады спелыя рвалі –
і суніцы, й чарніцы, й брусніцы,
буякі і маліны,
пазней – журавіны.
І лядоўня ніколі ў нас не пуставала,
і цяпер шмат прысмакаў яна захавала,
кожнай ягады смак, водар ягады кожнай.
Цукрам, мёдам аздобіць заўсёды іх можна.
Смакату, марцыпаны рабіць з іх люблю
і раблю.
Так прыемна падаць і сказаць: “Смачна есці!”,
пазітыўнае штосьці табе распавесці!
Не губляйся, не плач,
справы пойдуць удала;
не кажы мне: “Прабач,
я капрызная стала!..”
Я капрызаў тваіх аніяіх не бачу.
Бачу: цяжка табе – сэрцам ціхенька плачу
і прашу моўчкі я, ігнаруючы стому:
памагайце каханай маёй, сцены роднага дому!

## З
## Дзевятнаццаты год

…Дзве тысячы дзевятнаццаты…
Ніякай у нас нягоды.
Дні нашай згоды й лагоды.
Жывем і шчыруем на лецішчы
сярод маляўнічай прыроды.

## Вясновы эпізод

*Ясна так дзень пачынаецца!*
*Сонцам абняты прастор,*
*краскі ў траве прачынаюцца,*
*птаствам абуджаны бор.*

*Дай жа руку мне, каханая, –*
*рай гэты кліча зямны, –*
*краю ляснога падданыя,*
*пойдзем у ранак лясны.*

*Ёсць калі штосьці трывожнае,*
*вераю ў цуд спапялі,*
*сэрца сваё заварожана*
*к сэрцу майму прытулі.*

*Дальняе, ды незабыўнае*
*хлынула ў вочы мае.*
*Нам пра жыццё хуткаплыннае*
*звонка зязюля куе.*

## 4
## Высакосны

А наступны, дваццаты год –
год суцэльных нягод;
вясна ім праклала дарогу,
пасеяла ў душах трывогу.

### Нашэсце

*На караблі Зямля – паніка,*
*як некалі на “Тытаніку”.*
*Вірус нязнаны*
*пануе, ліхі;*
*наканаваны*
*Зямлі. За грахі?..*
*Дзе Кітай, дзе Італія…*
*Што яму далі дальнія!*
*Шлях не шукае,*
*швыдкі такі, –*
*скрозь пранікае,*
*ва ўсе куткі.*
*Што прыйшоў вяршыць?*
*Бяду сеяць, жыцці касіць!*
*Хоча, каб высакосны*
*год быў укосны…*
*Ён – з’ява глабальная,*
*ява татальная –*
*ужо ў Беларусі:*
*на нашы сем’і,*
*на продкаў землі,*
*вёсачкі, гарады –*

*нашэсце бяды.*
*Страх у нашым народзе*
*з панікай на мяжы.*
*Будуць пустыя фразы,*
*байкі пра белу сажу,*
*ды аніхто не скажа,*
*як жа заразу*
*нам перажыць!*

***

Без пандэміі трымаліся
неяк гады паўтара мы,
і раптам з ёю спазналіся,
з неверагоднаю драмай.

Ты – з балячкамі многімі –
ад'язджаеш на "Хуткай..."
Я застаўся з трывогамі
і з працяглай дакукай.

## *Лірычная хроніка расстайных дзён*

*Так часта мы рызыкавалі*
*сваім здароўем, не сакрэт, –*
*ад небяспек не ахавалі*
*сябе, цябе, мой мілы свет.*

*Любімая, у нас – расстанне!*
*Маўчыць мабільнік твой цяпер...*
*Як перажыць выпрабаванне?*
*Я ў Неба вымалю цябе,*

*каб аніўто не засмучала*
*вачэй харошы твой пагляд.*
*Я забяру цябе з адчаю*
*у гэты ціхі лістапад.*

*30, 31. 10. 2021*

*

*Пад сонцам з дрэваў лёгка падаюць*
*пазалацелыя лісты…*
*Свет ясны поўны пекнаты,*
*ды ён мяне зусім не радуе,*
*калі ў бядзе і смутку ты.*

*01.11. 2021*

*

*Каханая, я не жалезны,*
*вядома, ведаеш аб тым;*
*няўжо не адчуваеш ты,*
*як ад навін тваіх залежны?*
*Глядзіць бяроза сіратліва*
*ў маё самотнае вакно…*
*Ты адгукніся мне адно –*
*імгненнем адары шчаслівым.*

*02.11. 2021*

*

*Мне дома камфортна хварэць,*
*баюся няўзнак распанець.*
*У гэтым табе я прызнацца хачу.*
*Як цяжка табе, я з адчаем пачуў.*

*Палата цесная для хворых,*
*там вас, пакутніцаў, васьмёра;*
*паветра свежага бракуе,*
*на цэлафане сон – не сон!*
*Ніхто ж вас лепей не ўладкуе,*
*хоць бы й суцэльны чуўся стогн.*

*Душой з табою, цяжкахворай,*
*я, а табе то лепш, то горай…*
*Ды – як з туману ясны дзень,*
*як з цемры сонечны прамень,*
*так і цудоўнае з'яўленне*
*надзеі на выздараўленне.*

*02.11. 2021*

*

*Той сон, падобна, быў прарочы:*
*упэўнена, бы малады,*
*па неабсяжным моры крочу,*
*зусім не ведаю, куды;*
*вакол вада – як кінуць вокам,*
*і анікога анідзе:*
*Ні птушак нават, ні людзей…*
*А ногі ўжо мае глыбока!*
*Трапляю ў яміну, дно ў іле,*
*усё цяжэй нагам маім,*
*іх выцягнуць ніяк не ў сіле,*
*і – прачынаюся на тым.*
*Мой сон даволі ўжо далёкі,*
*убачыўся яшчэ тады,*

*як я хадзіў і бегаў лёгка,*
*ён прадказаў: чакай бяды!*
*03.11. 2021*

*

*Пакінь мяне, апатыя,*
*Хутчэй, хутчэй сыходзь!*
*Дай завяршыць мне хоць*
*даўненька распачатае…*
*Ты страшна вінаватая –*
*прынесла шкоду мне:*
*маўчу, нібы ўва сне…*
*Адстань жа! Прэч, праклятая!*
*………………………………………………*
*Упартая апатыя…*
*Лістапад 2021*

*

*Восень. Нізка хмары*
*шаты свае звесілі.*
*Дзе, мае вы мары,*
*летуценні веснія?*

*Жыта маё ўлетку*
*буйна каласілася.*
*З радасці нярэдка*
*сэрца гулка білася…*

*На мае палеткі*
*ападае лісцейка.*
*Праляцела лета…*
*Мрою зноў пра лецейка.*
*09.11. 2021*

*

*Не цеш мяне, не суцяшай!*
*Чаму дамоў не адпускаюць?*
*Я так даўно цябе чакаю,*
*стамілася мая душа!*
*15.11. 2021*

Канешне, табе гэта – не адкрыццё:
люблю і кахаю цябе ўсё жыццё.
Мяне ж адгаворвалі просценька так:
“Гаворыш, хварэла на мінінгіт…
О, дарагі, шукай варыянт, безумоўна, другі…
Няўжо ты настолькі дзівак,
што з ёю гатоў ажаніцца?!
Хвароба на дзецях жа можа адбіцца!..”
Мяне папярэджвалі надта сур’ёзна:
“Гаворыш, хварэла яна й рэўматызмам…
Адумайся, покуль не позна!
Удумацца ў гэта табе, брат, карысна:
а што, калі жоначка стане калекай?!
Гатоў ты вазіць у вазку інвалідным
і працаваць на аптэку?..”
Мяне угаворвалі, засцерагалі,
усё ад памылкі аберагалі:
“Гаворыш, хварэла й на туберкулёз…
Навошта табе такі горкі лёс?
Ты ж не вар’ят!
Глянь, колькі кругом,
як кроў з малаком,
здаровых дзяўчат,
талковых, харошых,
вясёлых, прыгожых…

Бяры, выбірай!
Нашто табе з хвораю пекла, як можа быць рай!
Пакінь яе, з туберкулёзам!..”
А ты маім сталася лёсам.
Цябе браць ніхто мне не раіў.
А сталася ты маім раем.

Як прыйшло захапленне
невыказнай красой,
ты была і натхненнем,
і песняй маёй.

*Рытм задавалі вершам маім*
*крокі твае, калі набліжаліся.*
*Рыфмы дарылі вочы твае,*
*калі мне ўсміхаліся.*

Цябе ўбачыць
памкненне
меў наяве і ў сне.
Хараства ўвасабленнем
ты была для мяне.

*Беларуская зорка-дзяўчына:*
*мілы твар,*
*вочы, поўныя чар,*
*чараціна-пастаць…*
*О, такую красу апяяць немагчыма,*
*мо яе толькі можна на скрыпцы сыграць!*

Як была ты ў шпіталі
ды паехала ў Крым,
дні мае зміралі
ў цяжкім смутку маім.

Я пасылаў табе з Брэста
авіяпоштай лісты,
каб, дарагая нявеста,
хутчэй іх чытала ты.
Парою насіў на вакзал
ды адпраўляў з цягнікамі…
Што я ў радках не казаў,
выказваў паміж радкамі.

*Як я чакаў цябе –*
*пад ліўнямі сонца,*
*у бязмежжы дажджоў,*
*у завеях лістоты,*
*у пустэльні снягоў –*
*не ведаў ніхто.*

*Як сумаваў я –*
*слых тупеў без тваіх крокаў і голасу,*
*вочы гаслі без твайго позірку,*
*вусны грубелі без тваіх пацалункаў,*
*рукі нямелі без абдымкаў з табою –*
*не ведаў ніхто.*

*Як нам лёгка пад ліўнямі сонца,*
*як спакойна ў бязмежжы дажджоў,*
*як нам светла ў завеях лістоты,*

*як нам вольна ў пустэльні снягоў,*
*можа ўведаць увесь белы свет.*

Каханне маладое
квітнела і расло.
Нас пачуццё святое
да шлюбу прывяло.
Мянялася крута жыццё ў нас,
студэнтаў нядаўніх:
да будняў працоўных усё прыбывала
вандровак жаданых,
на землях ружанскіх тваіх
і маіх камянецкіх бывалі,
у нерушы нашых краёў патраплялі,
з табою ў абдымках мы там патаналі,
і ад пацалункаў гарачых стамлення не зналі.
Жытло мы знайшлі ў нашым Берасці любым,
дзе так незабыўна злюбіліся ў шлюбе,
у згодзе сямейку з табой заснавалі,
нялёгкую ношу панеслі аддана
не позна, не рана,
жыццё паступова спаўна спазнавалі.
Сварыліся часам з якой неістотнай нагоды,
але выручала каханне заўсёды.
Было ўсё адно – дома мы альбо недзе на сене,
пад стрэшкаю нізкай, пад небам высокім вясенніх,
альбо пад Варшаваю мы, ці ў Маскве,
ці ў Парыжы чароўным,
у Крыме,
на моры на Чорным
ці Сяродземным,
бо мы пражывалі ў каханні ўзаемным.

Духам расці нам каханне спрыяла,
лёгка настрой пазітыўны ствярала;
мы паспяховыя ў працы былі,
ты – выхавальніца, я – журналіст.

***

Ля радзільні я; вечаровы ўжо час;
дзіва: бочка стаіць уверх дном
пад тваім нешырокім вакном –
тое, што мне і трэба якраз.

Спрытна так я ўскочыў, як кот,
і ў вузе́нькім высокім вакне
ты заўважыла з ложка мяне,
Павітаўся з табой я рукой.

А цябе боль даймаў акурат,
і ты крыжыкам пальцы два склала…
Гэта мне дома спаць не давала –
бег да пошты, дзе быў тэлефон-аўтамат,
дактароў турбаваў я нямала…
Пра цябе я не думаць не мог,
уяўлялася страшная драма:
“Як памрэ яна, не дай Бог,
я памру гэтаксама!”

Быў назаўтра пачатак вясны.
Бег па кветкі я ранняй часінай,

быў шчаслівы ад навіны:
нарадзіла ты першынца-сына!

Зноў на бочку, што пад вакном
хтось паставіў дарэчы ўверх дном,
я ўзбіраюся лёгка скачком,
каб убачыць цябе ўжо з сынком.

Ты прыўстала, мадонна, ў халаце,
з дарагім на руках немаўлём.
Даў сыночак тым сонечным днём
табе званне высокае – маці.

Ты была яшчэ бледная дужа,
ды ў цябе выгляд быў непанылы;
палюбіўшы дзіцё, не забыла пра мужа:
"У нас добра ўсё, беражы сябе, мілы!"

О, мне словы твае на шматочку паперы
даравалі і крылы, і сілы прыліў,
прыдавалі надзеі, любові і веры,
іх чытаў, перачытваў, да сэрца туліў.

***
"Беражы сябе…" –
ты сказала мне
словы простыя, а дарагія.
Перажыў кашмар
я не толькі ў сне
праз учынкі свае благія.

…Сівое страшыдла
за горла душыла,
махала кінжалам,
пры гэтым крычала,
аж рэха ляцела:
– Ты знікнуць павінен-вінен!
Падняць я не мог алавянае цела,
ляжаў нібы ў цеснай глухой дамавіне.
Нямоглае цела
спаць страшна хацела.
А дыхаць мне стала зусім немагчыма!
Я лыпнуў вачыма:
ўся ў дыме кватэра!..
Я ўскочыў. Уміг адчыніў разам вокны і дзверы
і выключыў электраплітку,
на ёй прастаяла
паўночы патэльня з учорашняй бульбай
і салам,
вугельчыкі й попел яна мне цяпер паказала.
Я выбег падыхаць паветрачкам свежым,
халодным,
уцяміў, што спаў у касцюме я, п'яны й галодны.
Кампанію ўспомніў, якая
ў сталоўцы ласкава мяне сустракала:
– Фундуй, бацечка: справа святая!..

О, ведала ты, што казала!..
Я цёмнаю ноччу вярнуўся з вакзала,
дзе мы свой бязмежны "паход" завяршылі;
віно, і каньяк, ды і піва ў той вечар глушылі,
бутэлек без ліку тады асушылі.

Закусвалі мала,
на закусь не грошай, а часу як бы не ставала…

Ачомаўся, думаў: “А што ўсё ж мяне ўратавала
ў аднапакаёўцы той ноччу вясноваю чорнаю?
Магчыма, і кухня прасторная,
І столь надзвычайна высокая?
А можа, тады, чараўніца мая веснавокая,
табе ля дзіцяці не спалася,
і ты за яго й за мяне хвалявалася?..”

Пашчасціла мне – факт зусім відавочны.
Прасіў прабачэння тады я завочна,
у вас, мая жоначка і мой сыночак.
З пары тое даўняе больш я не меў такіх ночак,
даў слова сабе – для сям'і берагчыся,
бо разам мы – сіла і розум цвярозы.
Дай Бог не змагчыся
адводзіць бяду і пагрозы…

*6*

У кватэры зручнай пасяліліся,
абжылі яе, кватэру новую;
гадавалі сына. Весяліліся,
бо займелі ўмовы адмысловыя:
з домам побач – школа, сад дзіцячы,
і твая ў дзіцячым садзе праца.
Раптам высвятляецца задача –
трэба мне ў сталіцу перабрацца:
справу мець мне там наканавана.
– Едзем? – згоды я адно чакаю.

І адказ я чую найжаданы:
– Як інакш, калі цябе кахаю!..
Рушылі да новага жыцця мы,
не лічылі страты і набыткі.
Ты самаахвярная – я ўцяміў
і дужэў духоўна ўвачавідкі.
Разам прывіталі мы сталіцу.
Не было ў мяне нічуць сумнення,
што яна мне станецца крыніцай
жыццядайнай волі і натхнення.
Тут адчуў душою неаднойчы
дух Максіма, Янкі і Якуба.
У цудоўным калектыве творчым
працу тут займеў я – сэрцу люба!
Несла ты настаўніцкую ношу;
адраджэнскі час прыйшоў харошы…
Гвалт пасля чыноўнікі ўчынілі –
клас твой беларускі зачынілі.

Супраць траўмы дзяцей мы змагаліся,
справядлівасці ўсё дамагаліся…
Ты і я пасябравалі разам
з тым тваім бядотным трэцім класам.

Мы з табою розныя часіны
у сталіцы роднай сустракалі.
Сабе доньку, а сястрычку сыну,
мілую, на шчасце тут прыдбалі.

## 7

У мінулае павяртаюся.
Да цябе я, матулька, звяртаюся,
я шкадую: памерла так рана!
Не спаткалася,
не спазналася
з маёй жонкай каханай,
з такой мілай, прыязнай, стараннаю,
што ўся ў клопатах век без прынукі.
Хараством мяне цешыць абраная,
цешаць верныя, шчырыя рукі;
апяваю яе апантана я:

*параўнаў бы цябе з Афрадытаю*
*за красу тваю за жаноцкую,*
*ды яна ж, Афрадыта, – бязрукая.*
*А твае рукі цёплыя*
*аніколькі не страцілі*
*пяшчоты абдымкаў,*
*умення кухарыць,*
*адбельваць бялізну,*
*вырошчваць кветкі,*
*лашчыць унукаў,*
*што азначае –*
*мяне акрыляць.*

Пэўна, мамачка, ў царстве нябёсным
блаславіла ты нашу дарогу
і шчаслівых жадаеш нам вёснаў,
за сям’ю маю молішся Богу.

8
Пяцьдзясят сем год разам,
аж не верыцца часам!
Шчодра вёсны падораны
нашай доляю шчаснай;
мы для радасці створаны
ў краі продкаў прыўкрасных.

***

*Хай зразумеў я не адразу:*
*мы нават можам зрушыць горы*
*і вычарпаць праблемаў мора,*
*калі ў жыцці шчыруем разам.*
*Здалося: не было паразаў,*
*ні слоты, ні цяжкой дарогі,*
*адны ёсць толькі перамогі,*
*бо па жыцці мы крочым разам.*

О, зноў мы разам,
радасць мая!
Хоць і ў трывозе
і ты, і я.

Вірус паганы
зла натварыў –
болі, хваробы
ўсе абвастрыў.

Табе ў шпіталі
усё ўнушалі:
“Сябе не цеш,
Дадому – рана,
глядзі, памрэш!”

У сямі храмах
за цябе
малілі Бога,
моляць цяпер.
Мы шчыравалі,
як маглі,
гарачку неяк
перамаглі.
Прыкметна дыхаць
табе лягчэй,
ужо бяссонных
няма начэй.
Тахікардыі
далі мы бой.
Вяртаем радасць
мы з табой!

Ты ўжо мала таблетак глытаеш,
ў інтэрнэце парады знаходзіш,
Караткевіча ўсмак чытаеш
і на шпацыр са мной выходзіш.
Мы набліжаем з табой перамогу,
я з пылам ваюю, мыю падлогу;
ты ўжо ўсміхаешся, ты і жартуеш,
нават капусту на кухні шаткуеш,
мы разам марым, у згодзе кухарым,
напрыклад, кашу любімую варым.
А што за каша
любімая наша?
Ды гарбузовая.
Гарбузок кожны – сонцам багаты.

Мы гадавалі.
Мы набліжалі простыя святы.

Разам мы – і паціху вяртаецца
тое ўсё, што было да расстання.
Нездарма гэты твор называецца
натуральна – “Паэма вяртання”.

*2021, лістапад-снежань*

# Фігурны верш

Не звужу свет
да шырыні вакна,
да шырыні сцяны,
сцяжыны й поля.
Як вецер пахне,
як цвіце вясна!
Я
вас
люблю,
прырода,
людзі, воля!

*2001*

# Актава

Як толькі Вялікдзень высокі прыходзіць
і свет прамаўляе: «Хрыстос уваскрос!»,
мацнее адвечная вера ў народзе
у розныя цуды, у шчасце, у лёс.
Калі купалы залацяцца на ўсходзе,
а краскі купаюцца ў свежасці рос,
не хочацца думаць, што ёсць небыццё,
бо кожную тканку хвалюе жыццё.

*2007, 2022*

# На сяўбу!

Беларусы, сеяць будзем,
Дбайна зерне варушыць.
Мы павінны жыць як людзі,
А не жыць як набяжыць.

Беларусы, будзем сеяць –
І рупліва будзем жаць.
Сэрцы любяць, рукі ўмеюць…
Будзем долю набліжаць.

Беларусы, сеяць будзем!
Поле памяці ляжыць.
Поле памяці абудзім –
Мы як людзі будзем жыць.

*1990*

# Запаветнае

Беларусь мая!
Люблю тваю прыгожую і мужную зямлю,
ласкавыя й багатыя твае нябёсы –
з акіянамі, морамі ды вазёрамі сінечы
між фантастычна-велічнымі гарамі аблокаў,
з паўстаннямі навальніцаў, бліскам маланак,
гучнымі арганамі грамоў,
сямістуннай вясёлкай.
Самыя пяшчотныя васількі цвітуць на тваіх палях,
самыя натхнёныя жаўрукі
спевам заліваюцца ў тваім небе,
самыя закаханыя ў свеце – тваё салаўі,
самыя тужлівыя ў свеце – жураўкі тваё.
Беларусь! Мая любоў да цябе – святая.
Не магу цябе пакінуць надоўга,
радасці й пакуты мае – з табой.
(Спачуваю змучана-змушаным тваім
эмігрантам –
папярэднікам і сучаснікам, а магчыма,
й наступнікам)...
Ты ўся – з песнямі, з палямі і пушчамі, рэкамі,
вазёрамі,
дарогамі і сцяжынкамі, курганамі, крыжамі –
Жывеш у маім сэрцы.
Мая любоў да цябе драматычная,
Маці-пакутніца, у стагоддзях слаўная
і стагоддзі залежная,
жорстка абкрадзеная і зняважаная!
Скрыжаванне шляхоў тваіх –
гэта крыж, на якім распіналі,

бы Хрыста, запаветную волю тваю.
Але мудрыя твае казкі вучаць:
агрэсіўнае, вераломнае зло
не пераможа даверлівага дабра.
Ці не таму ў тваёй чуйнай душы
побач з легендамі й казкамі
народжаны сардэчныя песні
і гучаць яны на мове такой мілагучнай!
МАЦІ ПРАЧЫСТАЯ! Кланяюся табе –
з мроямі пра верную незалежнасць, –
лясной і вазёрнай зямлі,
сівым курганам,
нябёсна-сінім зорачкам васількоў;
услухоўваюся, як чысціня крыніцаў,
водар суніцаў, грыбоў
рыфмуюцца з навальніцай, азонам, дажджом,
раскатамі грому –
і душой багамольна ўзыходжу
да жаўруковых мелодыяў, пошчакаў салаўёў,
светлай тугі жураўлінай,
да нябёсаў тваіх жыццядайных.
О, мая пажыццёва любімая,
Будзь дабраславёная!
Багаславёная!

*1995, 2019*

# Беларускі народ

Чалавек, радзіна, род, народ…
Радасць і смутак чытаю ў тваіх вачах,
На тваім чале, чала-век.
На радзіны, на вяселле, на памінкі
Збіраецца твая радзіна.
Радзіна радуецца.
Радзіна засмучаецца. Радзіна радзіцца.
Нараджаецца рада, удароўваецца парада,
Людзі даюць рады розным бедам, нягодам.
З роду ў род перадаецца ўсё святое.
Вядзецца род. Жыве народ.

Падобна, як на ніве залатому коласу
Пагражае збуялае пустазелле,
Народу майму пагражае насельніцтва глухата.
Хоць, як і сам народ,
Насельніцтва села, асела, пасялілася,
Насяліла паселішчы,
Яно чужое народу,
Бо не ведае той высокай еднасці,
Якую мае народ.
Насельніцтва лічаць, як статак,
Каб ежаю забяспечыць.
Хлеб і відовішчы – спажыва яго.

Народ – родны, высакародны, высокадухоўны.
Лікам не вылічыць яго велічы.
Маса – другарадны панятак.

*Мне назваць бы вялікім цябе, мой адзіны,*
*Ды няма на планеце народаў малых.*
З чым параўнаць народ?
Калі чалавек – зорка, род – сузор’е,
То народ – неабсяжны духоўны СУСВЕТ.
З глыбіні стагоддзяў да нас ідзе
Моц яго стваральнай энергіі.
Праз цэлае тысячагоддзе даходзіць
святло мужнасці
І любові да Бацькаўшчыны
Князя Рагвалода і легендарнай
Рагнеды-князёўны.
Няўрымслівы дух нашчадкаў
Мацнее разумнай адвагаю
Усяслава Чарадзея, святасцю
Еўфрасінні Полацкай
І Кірылы Тураўскага,
Стойкасцю Давыда Гарадзенскага
І Сяргея Астрожскага,
Асветнай мудрасцю Францішка Скарыны,
Глыбінным гуманізмам Міколы Гусоўскага,
Геройствам і самаахвярнасцю Каліноўскага,
Хараством талентаў Міхала Агінскага
І Максіма Багдановіча.

Так, народ ёсць духоўны Сусвет. Ды навошта
Я прыгадаў Страцім-лебедзя? Бачу страшнае:
*“І населі тут на лебедзя*
*птахі дробныя ўсёй стаяю”.*
Ці ж не гэтак насельніцтва
Насела на народ *“усёй стаяю”*,
Не дае грудзям *“вальней уздыхнуць”*,

Не дае крылам *“шырэй узмахнуць...”.*
Божа мой, не дай яму
Долі жорсткае Страцім-лебедзя!
Сэнс які губіць гэтакі Сусвет?!

З роду ў род перадаецца ўсё святое.
Вядзецца род. Жыве народ.

*2000, 2018*

# Праўда Кастуся Каліноўскага

Жнівом жыве той, хто пасее.
Го, рукі ў сяўца не дрыжаць!
Пасеяць ён горкую праўду паспее,
каб волю жаданую жаць…

Пятля абвіла яму горла,
у цемры патоплены дзень.
Ды мужнае слова не ўмёрла,
магутнае рэха ідзе,
ляціць над галечай, раскошай,
знаходзіць шляхі і куткі.
…Мужыцкая праўда
каштуе пяць грошай…
Няма ёй цаны, дзецюкі!

*1988, 2018*

# Акравершы

Як біўся за волю славуты паэта,
Народ клікаў з цемрадзі ў сонечны дзень.
Казалі пра нашыя крыўды сусвету
“Адвечная песня” й “А хто там ідзе?”

“Курган”, “Бандароўна” нам дух узвышаюць;
У генія стомы й спачыну не знаюць
“Паўлінка”, “Тутэйшыя” – дар на вякі…
Ах як жа дарэчы са сцэны не сходзіць
Любімы ў народзе пясняр памяткі,
Ахвярны і непераможны такі!

*2002*

# *З гамонкі на шляху да камунізму*

– З чым параўнаць народ з чужою моваю?
– Калі б такая нацыя была…,
яе зраўняў бы з кветкай папяроваю,
не, больш дакладна – з пудзілам арла.

*1975*

# Горкая іронія

Год кнігі,
тыдзень мовы,
дзень пісьменства…
Застаецца прыдумаць:
гадзіна беларускага патрыятызму,
і пагрукае ў сэрцы хвіліна маўчання.

*10.03.2012*

***

*Дарагая тая хатка,*
*дзе радзіла мяне матка.*
*З народнага*

Дзе б ні быў, дзе б ні жыў,
сны свае ўсё часцей
бачу ў Забалацці,
на хутары, дзе я рос,
дзе зімою заносіла снегам калодзеж,
дзе вясной ледзь на ногі ўставала карова,
дзе расла, бы арэхі, драбнюткая бульба,
дзе заўжды вабіў лес і красой, і дарамі…
Ткуцца сны: зноў і зноў я ў той хаце,
дзе стаялі калісьці кросны,
мама прала кудзелю,
печ паліла, варыла грыбы
(я чытаў пры газоўцы кнігі),
а за вокнамі вецер пілікаў на скрыпцы –
і па даху скакалі віхуры да ўпаду…
Не дзіўлюся, што сноў маіх дзея
часцяком развіваецца там.
Для мяне родны кут –
наймілейшая ў свеце святыня,
чые вобразы, фарбы і гукі
ў маім зроку і слыху,
у напружаных нервах,
у сыноўняй маёй крыві.

*1979*

***

Пад поўняю – вішнёвы белы сад…
Ці бачылі карціну вы такую?
Зямная і нябёсная краса
санату нараджаюць веснавую.

У цвеце вішні – не відно жытла,
як месяц заваражаны ні свеціць.
Мелодыя цвіцення і святла
жыве, няўлоўная ў святле і цвеце.

*1975*

# Санет

Любоў бязмежная, як і душа.
Маю душу ўсё існае хвалюе.
І мастака, і жабрака люблю я,
і зорку, і пчалу, і мураша.

Любоў не патрабуе ні граша –
яна сабой ніколі не гандлюе.
Любові не зракуся, не згублю я,
калі і шлях свой буду завяршаць.

Ад маці, Неба і Зямлі любоў,
яна – сястра, напэўна, прыгажосці,
супрацьстаіць нянавісці і злосці;

распятая, уваскрасае зноў…
“Любоў – міраж”, – магчыма, скажа хтосьці.
Яна ж трымае свет спакон вякоў.

*2000*

# Подых радзімы

О, ты радасць мая – адвечная
Камянецкая старана!
Старажытную бачу вежу я,
так далёка яна відна!
Мне яна падаецца відушчаю.
Мкнуцца словы з грудзей: добры дзень!
І насустрач з вячыстае пушчы мне
думнай песняй Лясная ідзе.

*2020*

# Бібліятэка імя У.М. Ігнатоўскага

У Камянцы бібліятэка
спрыяе шчодра чалавеку –
тут вечна верніцы шчыруюць,
увагай чытачоў чаруюць,
сваім багатым інтэлектам,
інтэлігентнасцю сваёй.
Тут людзі і зімой і летам
да кнігі горнуцца душой.
Храм кнігі я цаню такі,
перадусім люблю за тое,
што Ігнатоўскага святое
імя шануюць землякі.

*02.06.2020*

***

*Узвядзём жа культуру ў культ…*
*Яўгенія Янішчыц*

Культ беларускае кнігі,
Я не пытаю, адкуль ты.
Страшныя ведаеш культы,
Культ беларускае кнігі!

Шмат на шляху зведаў куль ты
Ад лютых сцюж да адлігі…
Культ беларускае кнігі,
Я не пытаю, адкуль ты.

*2007*

# Трыялет

*...І душу тваю абакралі, –*
*У ёй нават мовы няма.*
*Максім Багдановіч*

Нам Багдановіча Бог даў,
Каб багацелі мы душою,
Раслі каб з мовай не чужою.
Нам Багдановіча Бог даў,

Каб размінуліся з паршою,
Каб не сагнула ў крук бяда...
Нам Багдановіча Бог даў,
Каб багацелі мы душою.

*2006, 2022*

***

*М.Ж.*

*1*

Паклёп ты змалку зведаў, ён не мог
не даць табе наступстваў драматычных,
з няўдач ты мог не выбрацца фактычна,
але анёл-ахоўнік абярог.
Бяда хіснулася й пайшла на злом,
з хранічным болем чуешся шчаслівым,
у свеце звар'яцела-мітуслівым
жывеш, не помсціш нелюдзям за зло.

*2*

Абраў ты самастойна шлях,
пайшоў не з сошкай па палях –
працуеш розумам натхнёна,
высокай мрояй паланёны,
жывеш прыгожа, шчодры, шчыры,
краінам, людзям зычыш міру,
ты храм сваёй душы будуеш,
калі не шэнціць – не бядуеш,
жывеш святой стваральнай працаю.
Дай лёс табе спатканне з грацыяй!

*3*

Шмат да чаго ты стаўся здатны:
быў адмысловы будаўнік,
ажно й кіроўца ўжо выдатны –
сабе на радасць і радні.
І вольных дзён ты не марнуеш,

сваёй душы даеш зарад –
красой прываблены, вандруеш;
я за цябе бязмерна рад!
Прыемна непесімістычны
на фота бачыць вобраз твой,
мясцінаў розных экзатычных,
дзе ты бываеш, хараство.
Еўропу скалясіў грунтоўна,
ды не забыў свой родны кут,
бо разам з ліхам, безумоўна,
смак да жыцця ты зведаў тут.
…На лецішча мы ў навальніцу
у змроку выйшлі з цягніка,
мне ява тая быццам сніцца:
нёс я цябе на плячуках.
…Ты каля вогнішча падлеткам
са мною ў шахматы гуляў,
з бабулькаю у лесе ўлетку
старанна ягады збіраў…
Ты рос, перарастаў прыгоды,
памылак усё менш рабіў.
З любоўю да Тварца, прыроды
навек свабоду палюбіў.
Жывеш і жыцьмеш як належыць,
а ўжо ж не так як набяжыць,
хоць між радзімай і замежжам
мяжа варожасці ляжыць.

*24-27 снежня 2022*

***

Божа, збаў ад наркозу,
нейтралізуй гіпноз,
абарані мой розум;
я не хачу ў абоз!

*2021*

# Нязвыклы сон

Пасля вялікае айчыннай
Ваеннай цяжкае бяды
Я школьнік быў. Тады краінай
Вусаты правіў правадыр.

Яго скрозь ведалі усе,
Кругом партрэт яго вісеў,
Апроч таго, яго партрэт
На нас глядзеў з усіх газет…

Пад вечар неяк сек я дровы,
А ноччу дзіўны ўбачыў сон:
Упаў партрэт правадыровы
(Чамусь марудна падаў ён),
Сарваўся з белае сцяны…
Пазней быў скон правадыровы.
Пазней паўсталі праўды словы,
Што правадыр – ад сатаны;

Ён – параноік-ліхадзей,
І на рахунку на ягоным
Забітых многія мільёны
Сумленных, праведных людзей.

…Партрэты скрозь яго здымалі –
І з гэтай дзеяй ва ўнісон
тырана людзі праклінали.
А я свой дзіўны ўспомніў сон.

*1991*

# Па той бок...

Быў такі Хведар Жычка,
надта пільны рэдактар
і нібыта паэт;
неяк раз ён мяне папракнуў:
– З мёртвым Сталіным ты ўсё ваюеш!..
– Сталін мёртвы, казаў я, –
а зло, што зацята чыніў ён, што сеяў,
зводу не мае, усходы дае…

Час прайшоў, Жычка там, дзе й Сталін…
Ён мог там і данос накляпаць.

*2021, травень*

# *Заблуканая*

Беларусі воля,
ты блукала. Годзе!
Мы цябе гукалі
доўгія стагоддзі.

Доля ды без волі –
не бывае горшай.
за цябе стаялі
пад Грунвальдам, Воршай.

За цябе штовеку
наша кроў ліецца.
Мой бянтэжыш розум,
засмучаеш сэрца.

*01.06. 2021*

# Як малітва...

"Магутны Божа..." так узрушае,
дух узнімае, душу ўзвышае!
Што чую, бачу ў духоўным гімне,
прачулым гімне, дарагім мне?
Тут сэрцам бачу і сэрцам чую
да Беларусі любоў святую,
а гэта ёсць, панове, тое,
што абуджае ўсё святое.

*2021, ліпень*

# Незабыўныя

І Касцюшку люблю, й Каліноўскага –
змагароў за народ, за свабоду.
Што ж так раніць радок Караткевіча:
"Волі нашай крывавыя роды"?!

***

“Пасяліўся я ў мікрараёне сталіцы,
каля жаўранкаў і васількоў” –
так выказаў я некалі радасці словы.
А пазней, калі рухнула шмат таямніцаў,
аказалася: побач са мной – Курапаты,
я ўсяліўся ў іх і яны ў мяне.
Ці на мітынг іду, ці стаю ля крыжоў,
ці вяду гасцей да журботнай святыні –
ува мне гарыць горкай скрухі жар,
бо ў вачах маіх – процьма чарапоў,
процьма чарапоў, тут прастрэленых,
людзей знішчаных у трыццатыя...
(Эксгумацыя ажывіла жах… )
Горкай скрухі жар ува мне гарыць
і пад попелам звыклых клопатаў.

*2021, чэрвень*

***

Вуліца, дзе стаіць мой дом,
носіць імя ўкраінца,
што змагаўся й загінуў
на Беларусі – за Беларусь,
а гэта значыць – і за мяне.
Мірашнічэнка Пятро –
імя юнака,
што ў гарачым баі
заглушыў амбразуру
сэрцам юначым.
**Мір**ашнічэнка змагаўся й загінуў
за **мір** на зямлі.

*18.05.21*

# Украіне

У маім ты сэрцы, Украіна,
валадарка шчодрае зямлі,–
ніў раздолле, кручы і раўніны,
залатых сланечнікаў палі;

вартыя найшчырае любові
песні задушэўныя твае…
У тваёй, такой пяшчотнай, мове
чысціні крыніца светла б’е.

Поруч з намі ў радасці і ў горы,
любая сястрыца, з даўніны…
Глянь, у нас арнаментаў узоры
блізкія, падобныя яны!

Твой прастор, магутны дух, духоўнасць
вечна будуць таленты натхняць.
Веру і любоў табе ахоўваць,
процьму зла табе перамагаць.

Паядналася ты з вольнай воляй,
ёй цяпер павек не здрадзіш ты.
Хай расце, квітнее твая доля
й беражэ цябе Гасподзь святы!

*1995, 2005*

# Кабзар

*1*

Шаўчэнка з паэтаў мо самы сардэчны,
Душой з Украінаю мілай быў вечна
У самым святым, у ахвярным змаганні,
У краі чужым – на суровым выгнанні.
Хто блізкі з ім чарамі й праўдаю ў слове?
Міцкевіч? Купала? Максім Багдановіч?..
Хто йшчэ шкадаваў так пад гнётам Айчыну,
Паганцам пакрыўджаную цвет-дзяўчыну,
Нябогу-жняю ў полі панскім праклятым,
Любіў так вішнёвы садочак ля хаты?
Хто йшчэ так пакуты прыняў за краіну?

Свет любіць яго за любоў да Ўкраіны!

*2*

Тарас Шаўчэнка вершам навучае,
Любоўю вернай прыклад падае:
Не здрадзь Радзіме – біся за яе,
Тарас Шаўчэнка вершам навучае…

Не адракайся ад зямлі свае
Ні ў радасці, ні ў смутку, ні ў адчаі, –
Тарас Шаўчэнка вершам навучае,
Любоўю вернай прыклад падае.

### 3

Ой, грэшная імперская Расія
З каранаваным Мікалаем Першым,
Бо мардавала Тараса Шаўчэнку –
Зрок зоркі, чуйны слых, сумленне Украіны!

Наіўная імперская Расія,
Бо думала, што Мастака-Паэта
Зрабіла вязнем крэпасці-астрога,
Забіла зрок і слых, сумленне Украіны.

Тарас Шаўчэнка, мужны, мудры, слынны,
З вялікім сэрцам, з яснай галавою
Ды з самаробным сшыткам за халявай
Быў самы вольны на ўсім белым свеце.

Замучаны, ён стаўся неўміручым.

*2002*

# Немілагучныя

Адспявалі салаўі,
не чутно й жаўронкаў.
Чым парадуеш далей,
любая старонка?
Крумкачы ды пугачы
памагаюць скрусе.
Шчэ пры гнёздах жураўлі,
а я так журуся!

*18.06. 2021*

# Разлад

Надвор’е анамальнае
запанавала.
Навінаў аднастайная
прыйшла навала.
Страчаю ўсё панурыя
людскія твары.
Снуюцца людзі хмурыя,
нібыта хмары.

*2021, жнівень*

# Не журыся, душа, не чарсцвей – спагадай

Весткі добрыя – быццам на рану бальзам,
іх люблю атрымаць і паслаць люблю сам.
Толькі весткі прыходзяць благія,
як навала, – часцей і часцей.
І кажу сам сабе
у часіны тугі я
засцярогу: душа, не чарсцвей!

Весткі цяжкія рану вярэдзяць, як соль,
дух катуюць, п’юць кроў, забіваюць мой сон!
Змардаваны, падняцца пад сонцам імкнуся,
устаю, крочу, зрокам пранізваю даль
і ўнушаю сабе не ў адчаі, не ў скрусе:
не журыся, душа, – спагадай!

*2021, верасень*

# Слову – вернасць

Каму слова маё коле хіжыя вочы,
хто натхенне маё абяскровіць ахвочы,
таму раю баяцца як след кары боскай,
бо паэзія – госця высокіх нябёсаў.

Варта ўцяміць яму, што паэт – духам вольны:
служыць праўдзе, дабру,
быць прадажным не здольны.
Хто ж там цешыць сябе, што паэту нашкодзіць?!..

Мая муза нябачнымі сцежкамі ходзіць.

*2021*

# Ружаны

*Веры Шамяцюк*

Люблю малыя гарадкі я.
Бяру для прыкладу Ружаны.
Тут людзі шчырыя такія,
Любові вартыя, пашаны.
Пра вучняў добра школа дбае –
Паэтаў запрашае школа;
Народ змястоўна пажывае;
Царква не сварыцца з касцёлам.
Ружаны, вам вякоў нямала.
Люблю я з вамі сустракацца.
Тут беларускі дух трывалы,
Ён абяцае патрымацца…
Хоць у жыцці не ўсё і гладка,
Сапраўдны можа цуд адбыцца –
На радасць продкам і нашчадкам
Сапегі замак аднавіцца.

*2012*

# *Канстатацыя*

*1*

Спёка. Пажар. Вецер…
Патоп. Люты холад…
На зямной планенце
бярэ ўладу голад.

Валам валіць смецце,
плывуць яды ў мора.
Па Зямлі-планеце
бяда ходзіць, гора.

Шырыцца  паскудства:
вераломства, войны…
Дэградуе людства –
свет злачынстваў поўны.

Ліха не збываем,
не перамагаем.
Бога забываем –
д’яблу памагаем!

*2021, жнівень*

# *Над кнігаю лёсу*

Ці ў небе смутак жураўлёў,
ці звонкі спеў жаўронкаў,
гартаю на зямлі дзядоў
свайго жыцця старонкі.

То сэрца радасць ахіне,
а то журба агорне;
бывае гэтак цяжка мне:
гару ў сумлення горне…

Яшчэ з людзьмі і да людзей
ідзе мая дарога.
Ад маладосці чым далей
мой шлях – бліжэй да Бога.

Я чую ў снах і наяву,
што на зямлі нялішні,
і разумею, што жыву
я ласкаю найвышняй.

Мне б гэты шлях зямны прайсці,
імя каб не запляміць,
любоў не страціць у жыцці
і дар высокі – памяць.

*2019*

# На беразе хуткай ракі

*Марыі*

*Трыпціх*

## 1

Я ўспамінаю хутарок,
Дзе мы, сястра, з табой раслі.
То мілы сэрцу быў куток,
Мы там шчаслівыя былі.

А час пасляваенны быў,
Такі цяжкі, суровы час!
Лес выручаў галодных нас –
Дарыў нам ягады, грыбы.

Ды ў голадзе і ў халады
З табой не ведалі бяды:
Нам маміна душа была
Крыніцаю цяпла, святла…

Даўно не стала хутарка –
Ўсё змыла хуткая рака.
І толькі маміна любоў
Не канула ў віры гадоў.

Так не губляе след свой, крок
Усё святое на зямлі…
Жыве краіна хутарок,
Дзе мы шчаслівыя раслі.

*2*

І сёстры нашы, і браты
У незваротным свеце.
Як добра, што ў мяне ёсць ты!
Нам сонца й зоркі свецяць.

Хоць мы і ў розных гарадах,
Адзіная сястрыца,
Па тэлеграфных правадах
Нам не нагаманіцца!

У памяці ўсё зберaглі
За шмат гадоў пражытых:
Як мы раслі, як мы жылі,
Як лес любілі й жыта…

Мяне ты ў школу прывяла,
Глядзела ў душу зорка,
Любоў да казкі прыўзняла,
Мая ты фантазёрка!

Сястрыца ў роднай старане
Сардэчна-памяткая!..
За што узнагарода мне
Ды шчодрая такая?

### 3

Ты аўдавела гэтак рана.
Жыла: далей бы ад грахоў.
Каб не вярэдзіць сэрца рану,
Ты не прымала жаніхоў.

Шмат год прайшло.
                    А час суровы
Тваю красу не сакрушыў,
І ў гэтым факце адмысловым –
Грунт: хараство тваёй душы.

Пра Беларусі шчасце мроіш,
Нашчадкаў век галубіш ты.
Я рады, што ў тваім настроі
Пераважае пазітыў.

Ды неразлучна адзінота
З табой брыдзе, па ўсім відаць.
Ёсць дзеці, там – свае турботы,
Ім застаецца спачуваць…

Калі зімовай доўгай ноччу
Не будзе сон чамусьці браць,
Падзякуй Богу: бачаць вочы,
Каб вершы брата пачытаць.

*01-03.07. 2021*

***

*Н.В. Гарунчык, Т.В. Пятровай*

Майго ўнука вучыла настаўніца,
у якой сэрца добрае,
слова мудрае,
ўсмешка шчырая –
тое, што непадзельна мацуе
і надзею, і веру, й любоў
і што так жыццядайна чаруе,
гэта значыць – вядзе за сабой.

*12.10. 2020*

# Memento mori

1

Старажытная мудрасць даецца –
Дэвальвацыі не паддаецца,
Ні іржы і ні цвілі на ёй –
Неўміручасцюззяе сваёй.
Я шаную лацінскі выраз,
Для мяне ён крылата вырас –
Памагае дабро мне цаніць,
Не паддацца хлусні, мітусні.
З ім, напэўна, і не расстануся,
Успамінам пакуль не станусся…
Наталяюся ў мудрасці моры
Ачышчальным: “Memento mori”!

2

Самаўлюбёна, без аглядкі
Уверх ідзеш дарогай гладкай.
Ды, хоць пакуль не зведаў зморы, –
Memento mori!

Валіцца з неба будуць грошы,
Купацца станенш у раскошы,
Кагось пакінеш лёгка ў горы…
Memento mori!

Фінал чакае невясёлы.
Як і прыйшоў, ты пойдзеш голы,
Забыты ў часе і прасторы.
Memento mori!

# *Факт*

*Дыпціх*

## *1*

Дачка таленавітая
і эмацыянальная,
рупліва-цягавітая,
з энергіяй стваральнаю.

Хіба ж не з ласкі божае
надзейная, зычлівая,
яна душой прыгожая
і хоча быць шчасліваю.

Над лёсам неўлагоджаным
вы не кружыце, вораны!
Для радасці народжаны,
хто талентам адораны.

*17-19. 10. 2021*

## *2*

І ў Дзень тэатра супакою мала:
даеш заняткі юным тэатралам.

Душою шчодрай сееш ты з натхненнем,
мо не на камень падае насенне?..

Няхай і незайздросныя заробкі,
абы хацелі дзецi браць урокі!

Хай рэдкаснае шчасце ў фільме зняцца,
любімыя затое ролі сняцца!

Мастацтву служыш ты самааддана;
яно й жыве любоўю апантаных!

*27 сакавіка 2022*

***

Трывожны час:
наўкола нас,
прад намі –
бяды цунамі,
усё часцей
мор-ліхадзей
бярэ людзей!
Так сумна-горка,
як перад крахам!
А ў вас – разборкі,
у вас – скандалы
ідуць з размахам
пад ціхім дахам.
Чагось вам мала.
Чаго бракуе?..

Ах, як зязюля
ў гаі кукуе!..

*2021, травень*

***

У шэсць гадкоў сваіх дзяўчынка
Уведала, што паміраюць людзі –
Заплакала, прыгнулася былінкай,
Бо зразумела цяжкаю хвілінкай,
Што родных і яе калісь не будзе.

Я мілую дзяўчынку суцяшаў:
Маўляў, такі закон спрадвечны,
Казаў, што неўміручая душа…
Але ці дапамог малой, сардэчнай?

Я не актор, каб быць пераканаўчым.
Я сам спакою не магу займець,
Як з майго сэрца, што па людзях плача,
Людзей любімых вырывае смерць.

*2022*

***

*Светлай памяці Дзімы Богдана*

Ты быў падлеткам, калі горкі лёс
Ударыў так бязлітасна знянацку
І рану пажыццёвую нанёс:
Так рана ты, заўчасна страціў бацьку!
Бялюткі снег лёг на яго сляды.
Ты стаўся не ў свае гады дарослым –
У човен сеў у раннія гады
І на ўсю моц
у шторм
налёг на вёслы.
Маланкі білі побач, неслі крах,
Ды не зламаўся ты у тым прасторы –
Свой незалежны, хоць няпросты, шлях
Пракладваў у жыццёвым бурным моры.
Стаў рана бацькам. Ныцікам не быў,
Быў смелы, і знаходлівы, і дзейны.
Любіў рыбалку і збіраць грыбы,
Вясёлы, кампанейскі, друг надзейны.

Але паклікаў бацька да сябе,
І ты пакінуў свет так рана-рана…
Тут снег ідзе, ды ўсім, каму ў журбе
Жыць без цябе ужо наканавана,
Снег пагасіць не можа сэрцаў раны.

*05. 01. 2021*

***

*Светлай памяці Рыгора Малога*

Грыша, Рыгор, даражэнькі Рыгорка,
Вось і Вялікдзень, у нас – новы май.
Як жа змірыцца з яваю горкай:
На белым свеце цябе ўжо няма!

Жыць ты спяшаўся і жыў гожа, ярка,
Мудры і дзейсны, і дом збудаваў,
І абзавёўся сям'ёй, гаспадаркай,
Бацька-арол, тры дачкі ўзгадаваў.

Шчыры, прыязны, вясёлы сумоўца,
Чым назаўсёды ў сэрца пранік,
Да віртуознасці ўмелы кіроўца,
Непараўнальны грыбнік-чараўнік.

Чымсьці да Мелехава быў падобны;
Ведаў яго, бо любіў "Тихий Дон".
Ты быў настолькі жывы і свабодны,
Што не хачу ўсведамляць я твой скон.

Думаю раніцай, сонечна-ветлай:
Смерці няма! Ёсць бязлітасны лёс…
Друг маладзейшы, душы тваёй светлай
Я адрасую: "Хрыстос уваскрос!"

*2021, травень*

***

*В.*

*1*

Паўтаралася нечаму тое:
Падмятала падлогу ты ў снах…
Сястра мёртвая раніцою
На падлозе ляжала ў дзвярах.

*2*

Пахавала сястру на радзіме –
Перарвалася тонкая ніць.
Пра жыццё
з ёй, сястрыцай адзінай,
Было радасна так гаманіць!
Без яе задрабнела радзіна:
Не пачуць, не пабачыць – маўчыць.

З немалое сям'і ўжо адна ты.
Не прывабіць надоўга сабой,
Не пакліча спусцелая хата…
Ды не плач, усвядоміш праз боль:
Чым далей, тым часцейшыя страты
Й непазбежнае скрухі ўсё больш.

*2021, травень*

***

*Светлай памяці Алеся Разанава*

*1*

*Мне і цяпер часамі здаецца,*
*што з Уладзімірам Калеснікам*
*мы едзем у сонца…*
*25 сакавіка 2019 г.*
*Алесь Разанаў*

…Дарогай, атуленай лесам,
З Пружаншчыны едзе Калеснік,
Вяртаецца ў Берасце разам з Алесем
(Выкладчык з студэнтам сваім).
Ніхто яшчэ не знакаміты,
Калеснік жыццём, вайной біты,
Апальны Разанаў – юнак самавіты;
Святое штосьць дадзена ім. Абаім.

З вясковае школы вяртанне
Пад легкавіка вуркатанне.
Бліжэй і бліжэй да змяркання
Машына бы ў сонца імчыць.
Бо гэтак яскрава між кронаў
Спусцілася шарам чырвоным
І па-над дарогаю роўнай,
Вялізнае, свеціць-гарыць.
Шмат роздумаў шлях навявае.
Прастору душа набывае,
Натхненне з імпэтам вяртае;
Былое балючае быццам няўзнак…

Маштабнае збудзецца ў лёсе,
Грунтоўнае ўжо і збылося:
Выгнанніку месца знайшлося…
А сонца над шляхам – такі добры знак.

*2*

Больш не ўбачыш, як шчодра залоціцца
восень,
Як твая зноўку ранняя прыйдзе зіма.
Вольны вецер адчайна няраз прагалосіць,
Што цябе анідзе на планеце няма.

Не – ты ёсць! Бо ствараў жа сябе апантана –
І адбыўся глыбіннай паэзіі маг!
Хай камусьці на грэшнай зямлі, нечаканы,
Замінаў твайго духу магутны размах.

За табою сачыла нядрэмнае вока –
Кожны лёкай “сістэмы” аддана служыў;
Іх палохалі рэха тваіх смелых крокаў,
Праўда, мова твая, ўсё, чым ты даражыў.

Ведай, волаце: дзе б ні сустрэлі варожа
Тваё дбайна-відушчае сэрца, – заўжды
Верыў я: твая воля цьму зла пераможа,
Адвядзе назаўжды ад суровай бяды.

Божы дар, воля, цяга твая да свабоды
Памагалі да мэты праз церні ісці.
Каб не гэтыя скарбы ад маці прыроды,
Геніяльнае штосьці не змог бы ўзрасціць.

*04.10.2021*

***

*Светлай памяці Алеся Каско*

У памяці ўспаміны множу,
чытаю – чую голас твой.
Я пра цябе казаў: прыгожы
аблiччам, талентам, душой.

Ішоў, паэзіі аддаены,
ў няроўны бой ты разам з ёй.
Скажу: ты, вонкава ціхмяны,
быў мужны самасцю сваёй.

*10.12.2021*

***

*Светлай памяці Ніны Кузняцовай*

Аўдавелая Ніна-гаротніца
у пасёлку прасторным з’явілася
і, старанная дужа
гародніца,
ўсім суседзям яна палюбілася.
Яе вочы, нябёсна-сінюткія,
усміхаліся людзям, зычлівыя.
Глухаватая і няхуткая,
выглядала ж даволі шчасліваю.
Ураджаем дзялілася з многімі,
частавала ахвотна малінамі,
палявымі хадзіла дарогамі
з працавітымі поруч жанчынамі.
А калі пад нябёсамі сінімі
жураўлі адляцелі сардэчныя,
так знянацку самотнай часінаю
адышла яна ў далі адвечныя.
І сяброўкі, і простыя бліжнія
затужылі без Ніны гаротнае;
словы й жалю майго нялішнія:

бы сястрыцу мы страцілі родную.

*2021*

***

*Светлай памяці Міхася Тычыны*

Далягляд пасівеў,
кроны хутка злыселі,
межавала з імжою вятрыскаў выццё.
Над маёю душой хмары нізка віселі,
бо тваё, дружа мой, дагарэла жыццё.

Я, зажураны гэтым ліхім лістападам,
пераношуся ў лета, ў разбег таго дня,
калі стрэў ты мяне ясна-сінім паглядам
і вачыма прыязна і цёпла абняў.

Аднакурснік Міхаська, твой вобраз мне мілы,
чалавечны твой талент мне блізкі такі!
Слова роднага магія нас парадніла,
бо паэзіяй трызнілі мы, юнакі.

На прасторах жыцця
рух твой стаўся прыкметны:
ты – настаўнік, салдат, аспірант, кандыдат,
аўтар кніг, інтэлектам багаты, адметны;
і сямейку на радасць займеў акурат.

Толькі лёс абышоўся з табой надта жорстка,
бы сурочыў хто шчасце тваё, галубок:
памірае раптоўна любімая жонка –
мама трох малалетніх дачок.

Бацька быў ты і мудры, і добры, як донар.
Тым, вядома, і ўзрушан, і ўсцешаны я,
што ў цябе, філалогіі выбітны доктар,
не была другараднай ніколі сям'я.

Людзі ведаюць, ты альтруіст быў, мой сокал,
сціплы быў, ды, аднак жа рашучы парой:
калі трэба было ў кабінетах высокіх
пастаяць за кагосьці – стаяў ты гарой.

Хтось, магчыма, цябе назаве старамодным…
Свет людскі да сябе ўсё з імпэтам грабе.
Ты пранёс дар зямнога жыцця гэтак годна!
Ганаруся табой.
Застаюся ў журбе.

*Лістапад, 2022*

***

*Светлай памяці М. Фінберга*

Мастацтвам жыў, з мастацтвам рос,
мастацтва людзям ён дарыў,
дарогу многім азарыў –
такі цудоўны стаўся лёс!
Душа пакінула свой след:
служыла справе найжаданай
натхнёна і самааддана!
Маэстра знаны на ўвесь свет,
а песню родную любіў
любоўю шчыраю сардэчнай
і ўтульны горад Маладзечна
сталіцай спеўнаю зрабіў.
Музыкі слаўныя ўзраслі,
і з музыкай жывой, крылатай
на шлях прасторны узышлі
паэзіі і песні святы.

*2022*

***

*Светлай памяці Анатоля Вярцінскага*

Чорная стужка на белых ружах,
слёзы-дажджынкі з маёй журбой.
Ды я не плачу, блізкі мой дружа,
днём развітання навек з  табой.

Лёс табе даў шлях зямны некароткі,
і, што хацеў, як хацеў, ты стварыў,
не прыніжаўся нідзе аніколькі,
праўду народу заўжды гаварыў.

Помніцца жнейкі Аксінні няшчасце
і філасофскі твой роздум пра час,
і пра бясчэсце, і пра бясчассе…
сказ твой нярэдка гучыць як наказ.

Слова і дзею, ідэю узважваў,
жыў беларушчынай, волю гукаў;
ты ў Маякоўскага, зоркі, заўважыў:
“Москва для нас – не державный аркан”…

Любы той быў, хто не быў пакорны,
*праўду казаў цару і двару…*
Сам жа таксама не біў ты паклоны,
а пакланяўся душой Кабзару…

Люд Беларусі шмат што трывожыць.
Ды, знакаміты паэт, сын Іллі,
знай, твая спадчына нам дапаможа,
каб нашы людзі як след зажылі.

*Вясна, 2022*

# Ліда

*Л.В. Мельнічук*

Нязломная, сардэчная!
Напэўна, нездарма
табе павек прысвечаны
аптымістычны май.

Пра болі, аперацыі
з усмешкай забываеш,
малітваю і працаю
уцеху здабываеш.

Зычлівая настаўніца
і носьбітка любві,
на добры шлях, натхняльніца,
нашчадкаў блаславі.

Прыбужскімі мясцінамі
ідзе цвітучы май.
Нястомная, гасцінная,
гасцей сваіх прымай.

Прыяцелька найшчырая
усёй маёй сям'і,
табе зноў песні з выраю
прынеслі салаўі.

*15.05.2022*

***

*Ніне Кот-Кусмерскай-Мялік*

Сяброўствам з ёю як не ганарыцца!
З заходнебеларускага сяла
яна паходзіць і жыве ў сталіцы –
сюды зямлячку доля прывяла.
…Дачушак дзвюх і сына ўзгадавала;
і на глухім на дзікім пустышы
прыдбала пляц і дом пабудавала,
падобны на палац, ён – для душы.
Яна надзіва ўсюды паспявае,
умелая на кухні й за рулём;
шчыруе шмат, слабым дапамагае,
спрыяе людзям блізкім дзень за днём.
Калі ў мяне здароўя бракавала,
калі спазнаўся з віруснай бядой,
яна і свежай ежай ратавала,
і лекамі, й крынічнаю вадой.
Прыгожая душой, паставай, лікам.
А так хварэла часта і ўсур'ёз!
Здавён яна – сярод праблем шматлікіх,
жыве без слёз, не скардзіцца на лёс.
Матуля выглядае маладою,
а ўся ў турботах з ранку дацямна.
Па ўсім відаць, Мадоннаю Святою
на добры лад натхнёная яна.

***

*Ані і Васілю Кавальчукам*

Сям’ю выдатна я уведаў,
дзе клопатаў зашмат сваіх,
багата і праблемаў, бедаў –
здароўя не стае на іх…

Аднак, напэўна, з ласкі божай
сям’я хінецца да людзей,
абавязкова тым паможа,
знаёмым, блізкім, хто ў бядзе.

Так натуральна, як і дыхаць,
ім, дарагім сябрам маім,
прывычна не мірыцца з ліхам
у свеце хісткім у людскім…

Сям’і ўкраінца з беларускай –
чарнобыльца і медсястры –
без стрэсаў зычу й перагрузак
дажыць да лепшае пары!

Без іх, руплівых і сардэчных,
душа так верыць не змагла б,
што не звядзецца чалавечнасць
перад спрадвечнай цемрай зла.

*01,02.11.2021*

# Ганулька

У Ганулькі мілай мама
вельмі шчодрая была.
Шчодрая яна таксама –
гены маміны ўзяла.

Знаюць блізкія ёй людзі:
пашчыруе над плітой –
да людзей ідзе, бо любіць
падзяліцца смакатой!

Набярэ ў бары чарніцаў
ці грыбоў-прыгажуноў –
аж трымціць яна – імчыцца,
каб дзяліцца зноў і зноў…

Хай Ганульцы Божа мілы
сілы, радасці дае!
Мама вечным сном спачыла,
ды жыве любоў яе…

*13.11.21*

# *Далёкае – блізкае*

Сакура заружавела ва-ўсю
ў нашых садах батанічных.
У садзе маёй душы – сімпатычны
цвет,
          водар
                    хоку Басё.
Гэта яшчэ не ўсё.
Бачу, пад сонцам
як ззяе раса.
Так бачыцца чуйным японцам
мовы нашай краса.
Іх напэўна счаруе
Багдановічаў васілёк.
Зорка святлом шчыруе,
ціхім, гаючым, здалёк…
Гожасць
          ва ўсе часы
вабнаю будзе, любімай.

Дысанансам да вечнай красы –
рэха Чарнобыля і Фукусімы.

*18.05.2021*

# Ніна Чаўчавадзэ

*Ум и дела твои бессмертны в памяти русской.*
*Но для чего пережила тебя любовь моя!*
Ніна Грыбаедава

*…И звезда с звездою говорит.*
*М.Ю. Лермантаў*

На скрыжаванні дарог –
Лёсаў людскіх скрыжаванне.
Час не легенду збярог –
Увекавечыў каханне.

Не адышло ў забыццё,
Хоць праляцела каметай,
Юнай грузінкі жыццё
З рускім апальным паэтам.

Сэрца яму аднаму
Ясна праменіла промні…
Промнямі ўпалі яму
Скрушныя словы на помнік.

Смутак так горка трываць!
Толькі ўсю выпіла горыч…
Болей ужо не ўдава –
Зноў з Грыбаедавым поруч.

Памяці, вернасці крыж –
Болей табе не апора,
Чыстаю зоркай гарыш,
З яркаю зоркай гаворыш.

З цішай Давыда гара
Сонечны горад вянчае.
А на граніце гарадзь
Словы святога адчаю.

*1989*

***

Я з дамаю тою раней сябраваў,
з аўтографам кнігі свае дараваў;
цяпер яна кажа: гатова спаліць
усе мае кнігі, спакойна каб жыць.
Кажу ёй, што Гітлер спаліў процьму кніг,
што будзе ў кампаніі з ім удваіх…
Гляджу: не бянтэжыцца а ні на міг.
Кажу: ты ж на камеру зняць не забудзь –
сабе і рэкламу, і славу здабудзь;
для славы дурное, глядзі ты, якраз
такі ўжо спрыяльны ў нас выдаўся час!..

*9 сакавіка 2022*

# Далёкі ўспамін

Ты ўся з агменю маладога
Была ў завею і ў мароз.
Якую, думаю, дарогу
Збіраўся нам паднесці лёс?
Здавалася, маглі рукою
Да зор высокіх мы дастаць.
Любіла сонейкам парою
Мяне ласкава называць.
Насустрач мне сябе нясла ты
У першацвеце пачуцця,
Хоць ведала, што я жанаты,
Што не пакіну я дзіця…
Ўва мне міжвольна адбываўся,
Не заціхаў нябачны бой:
То апантана любаваўся
Я весялушкаю табой,
Паставай статнаю дзявочай,
Агнём нятрачаным, жывым,
Дрыготкім голасу званочкам
І завіточкам залатым;
Будзённы дзень здаваўся святам,
Я ўсёй душой адпачываў!..
То легкадумным, вінаватым
Сябе я раптам адчуваў;
Пачуццяў разбураў адзінства
Твой юны вобраз пекнаты,
Мне ўсё здавалася:
з дзяцінства
Як бы яшчэ не выйшла ты.

Паўстаючы над сілай жарсці,
Ад шчасця рукі я адвёў…
Каму ты ўдаравала шчасце?
Дзе ты? Хто сонейка тваё?

P. S.
Сам задаю сабе пытанне:
Чаму так шчыра не прыняў
Я шчодры дар твайго кахання?

Любіў цябе я – не кахаў.

*1977 (?)*

# Восеньскі матыў

Змалку так нязменна павялося:
быць з табой хачу сам-насам, восень.

Спрэс актывізуеш ты мой розум,
паглыбляеш натуральна роздум.

Часцяком разважыш і параіш;
ты мяне адорваеш і раніш

пышнай прыгажосці завяданнем,
жураўлёў балючым развітаннем…

Ты – мая любімая, таму так
чысты на душу кладзецца смутак.

*2021, верасень*

# Кім быць?

Неяк раз унучак Паша
і дзядок Аўсей
ля вады на свежай пашы
пасвілі гусей.

На прыгорку ля рамонкаў
селі. Што рабіць?
Завялі яны гамонку,
хлопчыку кім быць.

Кажа ўнук: – Хацеў бы, дзеду,
лётчыкам я стаць,
пра машыны многа ведаць,
смела ўзлятаць!

Круціць вусам дзед адмоўна,
круціць галавой:
– Шлях у неба, безумоўна, –
гэта шлях не твой.

Разумееш, Пашка-дружа,
гэта не з рукі:
самалёт – складаны дужа
і цяжкі такі.

Як то кажуць, не дай Божа:
часам над зямлёй
і матор падвесці можа,
так вось, мілы мой.

– Мо я справіўся б, дзядуля,
лекарам тады?
– Што ты, ўнук, – людскія болі
слухацьмеш заўжды.

Лекару й вучыцца цяжка,
за ўсіх найдаўжэй,
а зарплата ў бедалажкі…
нельга ўжо ніжэй!

– Можа, змог бы, – кажа Паша, –
я дзяцей вучыць?
– Што ты, ўнук! – дзядуля кажа, –
лепш ужо лячыць.

Уяві: ты вучыш, вучыш –
ім на ўсё пляваць…
Станеш, як душу намучыш,
долю праклінаць.

– Кім жа быць?..
Дзед мружыў вока
і ажно пацеў:
– А начальнікам высокім
стаць бы не хацеў?

Інтрыгуе так малога
ўнука дзед Аўсей:
– Не баіцца ён нікога,
а яго – усе.

– А навошта страх, дзядуся? –
так малы сказаў. –
Я нічога не баюся,
кім бы я ні стаў.

Дый палохаць анікога
не пачну і я.
Павароту дзед такога
не чакаў ніяк.

Ён з усмешкаю ківае
галавой сівой:
– Малайчына! Ухваляю
я характар твой.

Шмат прафесій. Выбраць годна
зможаш і набыць.
А вось найвышэйшы гонар –
ЧАЛАВЕКАМ быць.

*2002*

# Усмешка

Маладжавы, жвавы дзед,
гладзячы Фядору,
вельмі здзіўлены, глядзеў,
у суседні дворык.
Там настойліва ката
котка спакушала,
ну, да дзеі шчыра так
яго запрашала:
лёгка падстаўлялася,
хвост не апускала,
“Бачыш, я ж твая уся!”
быццам прамаўляла.
Нерухома кот сядзеў,
абыякава глядзеў.
Дзед жа маладжавы
разважаў, рухавы:
“Нёж бяда такая
і мяне чакае?”
Недасведчаны быў дзед:
нечакана, раптам
пакараў ката сусед:
стаўся кот кастратам!

*2021*

# Змест

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Жуковіч** Васіль Аляксеевіч

# Ява, сны, летуценні

Паэма
Вершы

У аўтарскім рэдагаванні

Падпісана да друку 08.01.2022.
Фармат 75х100/32. Папера афсетная.
Друк лічбавы. Ум. друк. арк. 3.
Наклад 99 ас. Замова 851.

ТАА «Каўчэг»
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца,
вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў
№ 1/381 ад 01.07.2014.
вул. Л. Бяды, 11/1-205, 220040, г. Мінск.
Тэл./факс: (8017) 379 19 81
e-mail: kovcheg_info@tut.by
Instagram: kovcheg_info, Facebook: infoKOVCHEG